
ТОКІЁ. 1946.
ДАРАГІ, ГЭТАЙ НОЧЧУ ТЫ ДАЛЁКА АД МЯНЕ...
ТЫ Ў СТРАШНЫХ МЕСЦАХ...
...АЛЕ, МОЙ ДАРАГІ, БУДЗЬ АДВАЖНЫМ ДЛЯ МЯНЕ
БО КОЖНАЕ СЭРЦА...
«ЯКОЕ СЁННЯ ТРЫВОЖЫЦЦА ПРА ЦЯБЕ», МОЙ ДАРАГІ...
СВЕЦІЦЬ ДЛЯ ЦЯБЕ...
...У ГЭТЫМ БЛЕДНЫМ, БЛЕДНЫМ ЛУННЫМ СВЯТЛЕ.
ЗВЕРХУ ГЛЯДЗІЦЬ НА ЦЯБЕ, МОЙ ДАРАГІ.
У СВЯТЛЕ ГЭТАЙ БЛЕДНАЙ, БЛЕДНАЙ ЛУНЫ.


ГОТЭМ.
ШЭСЦЬ ГАДОЎ РАНЕЙ...
ПРАЦЯГВАЙЦЕ СТРАЛЯЦЬ! І НЕ САРОМЕЙЦЕСЯ ПАЦЭЛІЦЬ У ГАЛАВУ!
АУЧ!


ДОБРАЯ СПРОБА, ПСІХ! АЛЕ НАС ПАПЯРЭДЗІЛІ ПРА ТВАЮ ТАКТЫКУ. БАЧЫШ? МЫ ПАДРЫХТАВАЛІСЯ.
МАСКІ, ХЛОПЦЫ!
ПЯЧОРА, ПЯЧОРА, ТЫ ТАМ?!
СЭР =ЗЗЗЗЗТ= НЕМАГЧЫМА =ЗЗЗТ=
ЧОРТ, НА СУВЯЗЬ!


ПЯЧОРА, НЯ ВЕДАЮ, ЦІ ЧУЕШ ТЫ МЯНЕ, АЛЕ Я ЗБІРАЮСЯ НАВЕРХ! Я БУДУ...
ЗАРАЗ, КАЛІ ЁН ПАСПРАБУЕ ЗАБРАЦЦА НА КРОКВЫ З ДАПАМОГАЙ СВАЁЙ Ё-Ё ГАРМАТЫ...
...ВЫ ПАДСТРЭЛІЦЕ ЯГО ПРАМА Ў ПАЛЁЦЕ... ГЛЯДЗІЦЕ ЎВЕРХ, РАБЯТЫ. ГЛЯДЗІЦЕ ЎВЕРХ.
ПЯЧОРА, ЧОРТ БЯРЫ, МЯНЕ ХТОСЬЦІ ПАДСТАВІЎ! ПАЛІЦЫЯ ГАТОВА ДА ЎСІХ...
Я ЧУЮ ЯГО, СЭР! ЁН БЛІЗКА! Я СТАЮ КАЛЯ...
...АЙ!
ПЯЧОРА, ТЫ ЧУЕШ? ПЯЧОРА.
ЛОДКА! ЁН ІДЗЕ ДА ЛОДКІ, КАМІСАР!
ЛОДКА, ГА? ГЭЙ, БЭТМЭН. КАЛІ ТЫ СЛУХАЕШ, У МЯНЕ ДА ЦЯБЕ ПЫТАННЕ.


...ТАБЕ СПАДАБАЛАСЯ ЦУКЕРКА, ЯКУЮ Я ТАБЕ ПАКІНУЎ?
ЯК ТОЛЬКІ ДЫМ СЫЙДЗЕ, СТРАЛЯЙЦЕ.
POLICE
ВОСЬ ТАК...
...ІДЗІ НАЗАД ДА МАТУЛІ.


А, ТЫ ВЯРНУЎСЯ!
ХОЧАШ ЗАГІНУЦЬ РАЗАМ СА СВАІМІ АХВЯРАМІ, ТАК?
ТВАЕ КОСТКІ, ІХ КОСТКІ...
МЫ ЯГО НЕ БАЧЫМ, СЭР. АЛЕ ЁН ПАВІНЕН БЫЦЬ ДЗЕСЬЦІ КАЛЯ...
Я ЧУЎ ВОПЛЕСК! СЮДЫ, СЮДЫ!
У БАСЭЙНЕ! ВОСЬ, ВОСЬ, ВОСЬ!
«ДОБРА, РАБЯТЫ, КАЛІ ЁН ПАСПРАБУЕ ВЫСУНУЦЦА, ВЫ, ХЛОПЦЫ, ЗРАБІЦЕ З ЯГО РЭШАТА. ЁН НІКУДЫ НЕ ДЗЕНЕЦЦА!»


GASP!
ПЯЧОРА КХА!.. ПЯЧОРА... КАЛІ ТЫ МЯНЕ ЧУЕШ...
БЭТМЭН! СПЫНІСЯ...


...І ЎЗЛАЗЬ У ЛОДКУ.
ПЯЧОРА, НА СУВЯЗЬ, ПЯЧОРА!
ДА БЕРАГУ МІЛЯ. ТЫ НЕ ПРАПЛЫ-ВЕШ І ЧВЭРЦІ ГЭТАЙ АДЛЕГЛАСЦІ, КАЛІ ЯНЫ ЗНОЙДУЦЬ ЦЯБЕ.
ПРАКЛЯЦЦЕ, ЁН НЯ ТУТ! ПРАВЕРЦЕ НА РАЦЭ, ПРАВЕРЦЕ, ПРАВЕРЦЕ! **ЗАРАЗ ЖА!**
ГЭТА ПРА ЦЯБЕ.


ТАБЕ ТРЭБА ЗНЯЦЬ ГЭТУЮ МАСКУ, ПАКУЛЬ ЯНА НЕ ВЫЖГЛА ТАБЕ ВОКА.
ДОБРА, ТРЫМАЙ.
ПРАВЕР ДЫЯПТРЫІ. БЕЗ ІХ Я ПРАКТЫЧНА СЛЯПЫ. ВАЗЬМІ ІХ.
АЛЕ ДАПАМАЖЫ МНЕ ПРАВЕСЦІ ГЭТУЮ ЛОДКУ ПРАЗ ШТОРМ, ІНАЧ МЫ АБОДВА СТАНЕМ МОКРЫМІ І МЁРТВЫМІ.
ПАЛІЦЫЯ. ЯК ЯНЫ ДАВЕДАЛІСЯ, ШТО Я БУДУ ТАМ?
РЫДЛЕР. ЁН ДАСЛАЎ У ДЭПАРТАМЕНТ НАТАТКУ ПРА ЦЯБЕ. СКАЗАЎ, ШТО ДА НЕКАТОРАГА ЧАСУ ВЫ БЫЛІ САЮЗНІКАМІ, АЛЕ ЦЯПЕР ТЫ ЯМУ НАДАКУЧЫЎ.
ЁН РАСКАЗАЎ НАМ, ДЗЕ ТЫ З'ЯВІШСЯ І ЯК БУДЗЕШ СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ... ДАЎ ЛАЭБУ НАГОДУ, ЯКАЯ ЯМУ БЫЛА ПАТРЭБНА, КАБ АБВЯСЦІЦЬ ТАБЕ ПАЎНАМАШТАБНУЮ ВАЙНУ.
ТАДЫ НАВОШТА ДАПАМАГАЦЬ МНЕ?
НЯ ВЕДАЮ. МАБЫЦЬ, АДНАЎЛЯЮ БАЛАНС У СУСВЕЦЕ. У РЭШЦЕ РЭШТ, ТЫ ВЫРАТАВАЎ МАЁ ЖЫЦЦЁ Ў АЙС КЕМІКАЛ. ВЫРАТАВАЎ МЯНЕ АД ТОЙ БЭЛЬКІ.
Я БЫ ВЫРАТАВАЎ ЛЮБОГА. ПАВЕР МНЕ, НІЧОГА АСАБІСТАГА.
ХЕХ. ВОСЬ І Я ПРА ТОЕ Ж. У ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ МАЛА ХТО ТАК РОБІЦЬ. І Я ДУМАЮ, ШТО МЫ МОЖАМ ДАПАМАГЦІ АДЗІН АДНАМУ.
ЧАМУ? ЧАМУ Я ПАВІНЕН ЦЯБЕ СЛУХАЦЬ?
...
З-ЗА БРУСА ЎЭЙНА.
ШТО?



УЭЙН ВЯРТАЕЦЦА Ў ГОТЭМ. ГЭТА НЕШТА ЗНАЧЫЦЬ ДЛЯ МЯНЕ.
РАЗУМЕЕШ, Я БАЧЫЎ ЯГО АДНОЙЧЫ, КАЛІ ЁН БЫЎ РАБЁНКАМ. ЁН ПРАГУЛЯЎ ШКОЛУ, І НАМ ПАТЭЛЕФАНАВАЛІ, КАБ МЫ ЗНАЙШЛІ ЯГО. МЫ ЯГО ЗНАЙШЛІ І АДВЕЗЛІ Ў ПАЛІЦЭЙСКІ ДЭПАРТАМЕНТ ЧАКАЦЬ БАЦЬКОЎ.
ПА ДАРОЗЕ МЫ З ПАПЛЕЧНІКАМ ЯК ЗВЫЧАЙНА АБ'ЯЗДЖАЛІ КВАРТАЛ, ПРАВЯРАЮЧЫ ЎЛАДАЛЬНІКАЎ КРАМ.
«УЭЙН БАЧЫЎ, ЯК МНЕ ДАЛІ ПАДАРУНАК. ПЛАШЧ».
«ЁН СПЫТАЎ МЯНЕ ПРА ЯГО, І Я СКАЗАЎ, ШТО ЛЮДЗІ ГОТЭМА ПРОСТА ЛЮБЯЦЬ НАС, БО МЫ ЗАБЯСПЕЧВАЕМ ІХ БЯСПЕКАЙ».
«І ХЛОПЧЫК ТАК... ПАГЛЯДЗЕЎ НА МЯНЕ».
«ГЭТА БЫЛА ТОЛЬКІ ТРЭЦЦІ ТЫДЗЕНЬ У ГОТЭМЕ. Я ТОЛЬКІ ШТО ПЕРАЕХАЎ СЯДЫ З ЧЫКАГА, ДЗЕ СПРАВЫ ЙШЛІ ВЕЛЬМІ ДРЭННА».
«ДУМАЮ, НАСТОЛЬКІ ДРЭННА, ШТО Я НАВАТ СПРАБАВАЎ НЕ СТРАЦІЦЬ НАДЗЕЮ НАКОНТ ГЭТАГА МЕСЦА. УБАЧЫЦЬ ЯГО ТАКІМ, ЯКІМ МНЕ ЯГО ПРАДСТАЎЛЯЛІ ДЭПАРТАМЕНТ І АДДЗЕЛ КАДРАЎ. ЯКІМ Я ХАЦЕЎ, КАБ ЁН БЫЎ ДЛЯ БАРБАРЫ І ДЖЭЙМСА».
«Я АМАЛЬ ПАДМАНУЎ І СЯБЕ НАПРАЦЯГУ ГЭТАЙ ПЕРШАЙ ПАРЫ ТЫДНЯЎ. У МЯНЕ АМАЛЬ АТРЫМАЛАСЯ... ДА ГЭТАГА МОМАНТУ Ў МАШЫНЕ, КАЛІ Я ЎБАЧЫЎ НА ТВАРЫ ЎЭЙНА НАДЗЕЮ».
«ГЭТА ЗАБІЛА ЯЕ Ў МЯНЕ. ГЭТА РАЗБУРЫЛА ЎСЮ ІЛЮЗІЮ».
«Я ПАВІНЕН БЫЎ ВЕДАЦЬ. ТАМУ ТЫМ ВЕЧАРАМ, ПЕРАД СВАЁЙ ЗМЕНАЙ, Я ПАЙШОЎ У АДНУ З КАРАМАЎ, У ШВЕЙНУЮ МАЙСТЭРНЮ».
«ПРОСТА... ПАГЛЯДЗЕЦЬ».


«ПАЗНЕЙ Я ДАВЕДАЎСЯ, ШТО САБАЧЫЯ БАІ БЫЛІ ТОЛЬКІ ВЕРХАВІНАЙ АЙСБЕРГА. КАНЕШНЕ, Я ВЕДАЎ ГЭТА І ТАДЫ, АЛЕ НА ТОЙ МОМАНТ Я БАЧЫЎ ТОЛЬКІ ЖЫВЁЛ».
«САБАК ТРЫМАЛІ Ў ЭЛЕКТРЫЧНЫХ КЛЕТКАХ».
«КОЖНЫ ДЗЕНЬ СЛАБЫ РАЗРАД ЭЛЕКТРЫЧНАГА ТОКУ ПРАЗ ПАД-ЛОГУ БІЎ ПА ІХ ЛАПАХ, РОБЯЧЫ ІХ ЗВАР'ЯЦЕЛЫМІ, ПАКУЛЬ ІХ НЕ НАЦ-КУЮЦЬ АДЗІН НА АДНАГО».
«ТАМ БЫЛІ КАРЫ-ГАН, ПАРА, ЛІНЧ... ГЭТА МЕСЦА БЫЛО НАПОЎНЕНА КОПАМІ І ЗЛАЧЫНЦАМІ, ЯКІЯ СМЯЯЛІСЯ І ЖАРТАВАЛІ, ПАКУЛЬ ГЛЯДЗЕЛІ, ЯК НЕЙКІЯ ЗБІТЫЯ ЖЫВЁЛІНЫ ЗАБІВАЮЦЬ АДЗІН АДНАГО»,
ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІЦЕ! ГЭТА Ж ДЖЫМБА! САРДЭЧНА ЗАПРАША-ЕМ, ПАПЛЕЧНІК! ХАДЗІ СЮДЫ І РАБІ СТАЎКУ!
M. MARTS
ЗАРАЗ ЖА СПЫНІ ГЭТА, КАРЫГАН, ІНАЧ Я ПАЙДУ ДА ЛАЭБА!
НАНАНА НАНАНА НАНАНА
ПОЙДЗЕШ? ПАЧАКАЙ ТУТ. ПРАЗ ГАДЗІНУ ЁН ПРЫЙДЗЕ ЗА СВАЁЙ ДОЛЯЙ! СТАРЫ ДОБРЫ КАМІСАР ПРАКТЫЧНА АБІРАЕ НАС, БЕД-НЫХ ХЛОПЦАЎ.
...
МОЖЕ, МНЕ ТАДЫ ПАЙСЦІ Ў ПРЭСУ? МОЖА, МНЕ ДАЦЬ ІМ ЭКСКЛЮЗІЎНАЕ ІНТЭРВ'Ю АБА ЎСЕЙ КАРУПЦЫІ, ЯКАЯ АД-БЫВАЕЦЦА Ў ЛАЭБА ПАД НОСАМ?
ПАСПРАБУЙ.
І МАГЧЫМА, ЗРОБІМ ГЭТУЮ СТАЎКУ ЦІКАВЕЙ?


«Я ЎСЁ КРЫЧАЎ ІМ, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ДАЧКА, МАЛЕНЬКАЯ ДЗЯЎЧЫНКА ПА ІМЕНІ БАРБАРА, ПА ЯКОЙ ТРЭБА КЛАПАЦІЦЦА, І МАЛЕНЬКІ ХЛОПЧЫК ПА ІМЕНІ ДЖЭЙМС».
«АЛЕ ЯНЫ НЕ СЛУХАЛІ. СТАЎКІ БЫЛІ ТРЫ ДА АДНА-ГО, ШТО Я ВЫЖЫВУ».
«І ЎСЕ ЯНЫ ПРОСТА ЗАХАПЛЯЛІСЯ!»
«ЯНЫ КРЫЧАЛІ: «ДАВАЙ, ТЫ ЗМОЖАШ! У ЦЯБЕ АТРЫМАЕЦЦА!»
«ПАМЯТАЮ, ШТО ПРАЗ МОМАНТ БОЛЮ І ЎЛАСНАГА КРЫКУ Я ЗРАЗУМЕЎ...»
«...ЯНЫ ПАДТРЫМЛІВАЛІ САБАК».


«У РЭШЦЕ РЭШТ КАРЫГАН ПРАЙШОЎСЯ І САБРАЎ З УСІХ ГРОШЫ, НАКАЗВАЮЧЫ ЎСІХ ЗА ТОЕ, ШТО ПАСТАВІЛІ СУПРАЦЬ ЯГО ХЛОПЦА».
«ЗА ТОЕ, ШТО ЛІЧЫЛІ, ШТО ПРАТЭЖЭ ДЭНА КАРЫГАНА НЕ ВЫЙДЗЕ ПЕРАМОЖЦАМ».
«Я ЎСТАЎ З ПАДЛОГІ...»
«...Я ПАДНЁС СВОЙ СТВОЛ ДА ЯГО ГАЛАВЫ І КЛЯНУСЯ... Я АМАЛЬ ЗРАБІЎ ГЭТА...»
«...І ВЕДАЕШ, ШТО ЁН СКАЗАЎ МНЕ? ЁН СКАЗАЎ: «Я ПАСТАВІЎ НА ТОЕ, ШТО ТЫ ВЫЖЫВЕШ СЁННЯ, ДЖЫМБА. ПАДУМАЙ ПРА ГЭТА».
«ПОТЫМ ЁН МНЕ НАГАДАЎ ПРА МАЮ МАЛЕНЬКУЮ ДЗЯЎЧЫНКУ, БАРБАРУ, І МАЙГО ХЛОПЧЫКА, І СПЫТАЎ, ЦІ СПАДАВАЕЦЦА ІМ ГУЛЯЦЬ З САБАКАМІ ТАК САМА, ЯК І МНЕ».
«ТАДЫ Я СЫШОЎ, А КАЛІ ЁН СПЫТАЎ, КУДЫ Я САБРАЎСЯ, Я СКАЗАЎ...»
«...СКАЗАЎ, ШТО ЗБІРАЮСЯ АБЫЙСЦІ СВОЙ ГРОБАНЫ ЎЧАСТАК».


АБЫЙСЦІ СВОЙ ГРОБАНЫ ЎЧАСТАК
Я АБЫЙШОЎ ЯГО. КАБ ДАКАЗАЦЬ ІМ УСІМ. Я ПРАКАВЫЛЯЎ ПА ПАРКУ І ЯК РАЗ ПАСПЕЎ ПАЧУЦЬ ДВА СТРЭЛЫ.
ЗАЙШОЎ ЗА ВУГАЛ І ЎБАЧЫЎ ХЛОПЧЫКА, У ЯКОГА ЯШЧЭ ДНЁМ БЫЛО СТОЛЬКІ НАДЗЕІ, ЦЯПЕР ЁН ПЛАКАЎ НАД ЦЕЛАМІ СВАІХ БАЦЬКОЎ. І Я НЕ ЗМОГ ВЫЙСЦІ ДА ЯГО. Я НЕ ЗМОГ ВЫЙСЦІ ДА ЯГО, БЭТМЭН.
НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ, ПАКУЛЬ Я БЫЎ У ШПІТАЛЕ, МАЁЙ ДЗЯЎЧЫНЦЫ ПРЫЙШОЎ АНАНІМНЫ ПАДАРУНАК. ЦАЦАЧНЫ ПІТБУЛЬ. КАНЕШНЕ, ГЭТА БЫЛО НАГАДВАННЕ.
ТАМУ Я НАШУ ГЭТЫ ПЛАШЧ ЯК НАГАДВАННЕ ІМ. КАБ ЯНЫ ВЕДАЛІ, ШТО І Я НЕ ЗАБЫЎ ТАГО, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ.
ПА МЕНЬШАЙ МЕРЫ, ТАК Я КАЖУ САБЕ. АЛЕ ЧАСАМ...
ЧАСАМ Я ПЫТАЮ СЯБЕ, ЦІ НЕ НАШУ Я ЯГО З-ЗА СОРАМУ.
АЛЕ ЗАРАЗ, УПЕРШЫНЮ З ТОЙ НАЧЫ, Я АДЧУВАЮ, ШТО, МАГЧЫМА, ШТОСЬЦІ ЗМЯНІЛАСЯ...
...БО ТОЙ ХЛОПЧЫК, БРУС УЭЙН, ВЯРНУЎСЯ, КАБ ЗМАГАЦЦА ЗА ГЭТЫ ГОРАД. А ЗАРАЗ І ТЫ ТУТ... ТЫ ЎСЁ МЯНЯЕШ. І РАЗАМ...
СПЫНІЦЕСЯ, ЛЕЙТЫНАНТ.
НЕ. Я РАЗУМЕЮ ЦЯБЕ, БЭТМЭН. Я ВЫДАТНА РАЗУМЕЮ, ПРА ШТО ТЫ...
НЕ. СПЫНІЦЕ ЛОДКУ.
ШТО? А МАЕ...
...АКУЛЯРЫ.
ВОСЬ ЖА Ж...
VROOOOO


СЭР.
Я ТУТ, АЛЬФРЭД. НАНОШУ АПОШНІЯ РЫСКІ НА ГЕНЕРАТАР ПАШКОДЖАННЯЎ.
ТЫ ЗМОГ АПАЗНАЦЬ ХІМІЧНЫЯ РЭШТКІ, ЯКІЯ РУКА ХЕЛФЕРНА ПАКІНУЛА НА МАЁЙ АДЗЕЖЫ?
ГЭТА, ГАЛОЎНЫМ ЧЫНАМ, СУМЕСЬ ФАСФАТАЎ І КАЛЬЦЫЯ. ШМАТЛІКІЯ КРЫНІЦЫ ДНК, УСЕ ЯНЫ ПАШКОДЖАНЫЯ І НЕВЫСВЯТЛЯЛЬНЫЯ. ТАКІМ ЧЫНАМ, РЭШТКІ КАЖУЦЬ, ШТО ЛАБАРАТОРЫЯ ХЕЛФЕРНА ЗНАХОДЗІЦЦА Ў...
УСІХ МЕСЦ НЕ ПЕРАЛІЧЫЦЬ. ГЭТЫХ РЭШТКАЎ ХАПАЕ ЯК БРУДУ. ЧОРТ.
НАРЭШЦЕ, ПРА БРУД, Я ПРЫНЁС ВАМ СНЯДАНАК, СЭР. БАЮСЯ, КАЛІ КУЛІНАРНАЯ ШКОЛА СВЯТОГА ЎІЛЬЯМА Ў ЛОНДАНЕ ПРАПАНАВАЛА ПАШЫРАНЫ КУРС, У ІМ НЕ БЫЛО ЎРОКА ПА ТЭМЕ «БЛЭНДЭР».
У ГЭТЫХ КАКТЭЙЛЯХ ЁСЦЬ УСЁ, ШТО МНЕ ТРЭБА, АЛЬФРЭД. ПА КАЛОРЫЯХ І СПАЖЫЎНЫХ РЭЧЫВАХ. РАНІЦАЙ, КАЛІ ВЯРНУСЯ, ЗМОЖАШ ПРЫГАТАВАЦЬ МНЕ НА СНЕДАННЕ ЎСЁ, ШТО ЗАХОЧАШ.
У АПОШНІ ЧАС, КАЛІ ВЫ ВЯРТАЕЦЕСЯ РАНКАМ, МНЕ ПРЫХОДЗІЦЦА ПАДАВАЦЬ ВАМ СНЯДАНАК ПРАЗ КАПЕЛЬНІЦУ. ГЭТА ЎСЁ ПАЦАЛУНКІ І АБДЫМКІ ГОТЭМА.
ЭЭЭХ. ДУМАЮ, МНЕ ПРОСТА ПРЫЙДЗЕЦЦА РАБІЦЬ СВАЮ РАБОТУ ЛЕПШ.
АЛЬБО ВЫ МОЖАЦЕ...
МАГУ ШТО, АЛЬФРЭД?
ВЫ МОЖАЦЕ ДАЗВОЛІЦЬ КАМУ-НЕБУДЗЬ З НАС ДАПАМАГЦІ ВАМ.
КАМУ-НЕБУДЗЬ З НАС?
LIEUTENANT JAMES GORDON
MARITAL STATUS: SEPARATED
CHILDREN: BARBARA, 15 JAMES JR.
CRIMES SOLVED: 28
ГЛЯДЗІЦЕ, КОЛЬКІ СПРАЎ ЛЕЙТЫНАНТ ДЖЭЙМС ГОРДАН РАСКРЫЎ САМ, БЕЗ ДАПАМОГІ ДЭПАРТАМЕНТА. ЦІ НАВАТ НАСУПЕРАК...
Я ПРЫМУ ГЭТА ЎВАГІ, АЛЬФРЭД. НА ДАДЗЕНЫ МОМАНТ У МЯНЕ ЁСЦЬ ТЫ. ГЭТАЙ ДАПАМОГІ ДАСТАТКОВА.



АЛЕ Ў ГЭТЫМ ТА ЎСЯ І СПРАВА, СЭР. ВЫ НЕ ДАЗВАЛЯЕЦЕ МНЕ ДАПАМАГАЦЬ. ВЫ МНЕ НЕ ДАВЯРАЕЦЕ. Я НЕ РАБЛЮ ДЛЯ ВАС НІЧОГА, ШТО ВАШ ГЕНІЯЛЬНЫ РОЗУМ НЕ ЗМОГ БЫ ЗРАБІЦЬ НЕЯК НА АДЛЕГЛАСЦІ.
АБ ЧЫМ ТЫ? ТЫ ТУТ, СА МНОЙ, У ГРОБАНАЙ БЭТПЯЧОРЫ. КАЛІ Б Я НЕ ДАВЯРАЎ ТАБЕ, НАВОШТА БЫ МНЕ, ЧОРТ БЯРЫ, ТРЫМАЦЬ ЦЯБЕ ТУТ?
LIEUTENANT JAMES GORDON
MARITAL STATUS: SEPARATE
CHILDREN: BARBARA, 15 JAM
CRIMES SOLVED: 28
ВЕДАЕШ, БРУС, З ЦЯГАМ ТЫХ ГАДОЎ, ПАКУЛЬ ЦЯБЕ НЕ БЫЛО, АДНОЙЧЫ ЦЯБЕ ЗНАЙШЛІ.
ПРЫЙШЛО ПАВЕДАМЛЕННЕ, ШТО ТЫ ЖЫВЕШ У НІГЕРЫЙСКАЙ ПУСТЭЛЬНІ З КАЧЭЎНІКАМІ, ЛЮДЗЬМІ, ЯКІЯ ВЯДОМЫ ЖОРСТКІМІ ТРЭНІРОЎКАМІ, ПРАЗ ЯКІЯ ПРАХОДЗЯЦЬ ІХ ВОІНЫ.
ТВОЙ ДЗЯДЗЯ ФІЛІП СКАЗАЎ, ШТО ЗБІРАЕЦЦА ВЯРНУЦЬ ЦЯБЕ ДАДОМУ.
Я СКАРЫСТАЎСЯ СВАІМІ СТАРЫМІ ВАЙСКОВЫМІ СУВЯЗЯМІ, КАБ АДПРАВІЦЬ З ГУСО ПАВЕДАМЛЕННЕ РАНЕЙ ЯГО.
Я ПАДУМАЎ, ШТО КАЛІ ЯНО АПЯРЭДЗІЦЬ ФІЛІПА, ТАДЫ ТЫ ЗМОЖАШ УЦЕКЧЫ.
Я АДДАЎ УСЁ, ШТО Ў МЯНЕ БЫЛО, УСЕ МАЕ ЗБЕРАЖЭННІ, КАБ ЗАПЛАЦІЦЬ КУР'ЕРУ. ЁН СКАЗАЎ, ШТО ПРЫНЯСЕ Ў ПЛЕМЯ ТЭЛЕФОН І ПЕРАДАСЦЬ ЯГО ТАБЕ. ПАМЯТАЮ, ЯК СТАЯЎ НАВЕРСЕ І ЧАКАЎ, ШТО ТЫ ВЫЙДЗЕШ НА СУВЯЗЬ...
...Я АМАЛЬ МОГ ДЫХАЦЬ, МНЕ ТАК ХАЦЕЛАСЯ ПАГАВАРЫЦЬ З ТАБОЙ. Я НАЗВАЎ ТВАЁ ІМЯ, А ПОТЫМ...
...ЦІШЫНЯ.
Я СКАЗАЎ САБЕ, ШТО КУР'ЕР ПРОСТА ПАДМАНУЎ, КАБ АТРЫМАЦЬ АПЛАТУ. АЛЕ НА САМОЙ СПРАВЕ Я ВЕДАЎ. Я ВЕДАЎ, ШТО ТЫ, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, БЫЎ ТАМ, НА АДВАРОТНЫМ КАНЦЫ, І НЕ АДКАЗАЎ НА ЗВАНОК.
АЛЕ Я ЗРАЗУМЕЎ. У РЭШЦЕ РЭШТ, КАЛІ ТЫ БЫЎ ТУТ, МАЁЙ РАБОТАЙ БЫЛО ПАВЕДАМЛЯЦЬ ТВАІМ БАЦЬКАМ ПРА ТВАЁ ПАВОДЗЕННЕ. ВЫКЛІКАЦЬ ДЗІЦЯЧАГА ПАЛІЦЭЙСКАГА, КАЛІ ТЫ ЎЦЯКАЎ У ГОРАД.
НАВОШТА ТАБЕ ДУМАЦЬ, ШТО Я СПРАБУЮ ДАПАМАГЦІ ПАСЛЯ ЎСЯГО ГЭТАГА?
АЛЕ НАЗІРАЮЧЫ ЗА ТАБОЙ ГЭТЫЯ АПОШНІЯ ТЫДНІ, Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО СПРАВА БЫЛА НЕ Ў ГЭТЫМ. ТЫ НЕ ПАДАЗРАВАЎ МЯНЕ, БО КАЛІСЬЦІ ДАЎНО Я ПАДВЁЎ ЦЯБЕ.
І ТЫ НЕ ПАДАЗРАЕШ ГОРДАНА, БО ЛІЧЫШ, ШТО ЁН КАРУМПАВАНЫ.
ТЫ ЗЛУЕШСЯ НА НАС. НА ЎСІХ НАС.
ТЫ БЫЎ МАЛЕНЬКІМ ХЛОПЧЫКАМ, ЗУСІМ АДЗІН У ТОЙ АЛЕІ, І НІКОГА НЕ БЫЛО ВАКОЛ. НІ МЯНЕ, НІ ГОРДАНА, НІ ТВАІХ СУГРАМАДЗЯН...
...НІ БЭТМЭНА.
ЦЯПЕР Я ВЕЛЬМІ ГАНАРУСЯ ТЫМ, КІМ ВЫ СТАЛІ, СЭР. АЛЕ Я БАЮСЯ, ШТО Ў ГЛЫБІНІ ДУШЫ ВЫ РОБІЦЕ ГЭТА, ВЫ - БЭТМЭН, БО ТАКІМ ЧЫНАМ КАРАЕЦЕ НАС...
КАРАЮ ВАС? ЯК Я КАРАЮ ЦЯБЕ?


«ПРЫМУШАЕЦЕ НАС ГЛЯДЗЕЦЬ».
«ВЫ СПЫТАЛІ, НАВОШТА ВАМ ТРЫМАЦЬ МЯНЕ ТУТ, І Я ЎПЭЎНЕНЫ, НЕ КАБ ПРЫГЛЯДВАЦЬ ЗА ВАМІ, СЭР, А КАБ ГЛЯДЗЕЦЬ. ГЛЯДЗЕЦЬ, ЯК ВЫ РОБІЦЕ ТОЕ, ЧАГО Я НЕ ЗМОГ».
«ВЫ ПРЫМУШАЕЦЕ ЎСІХ НАС ГЛЯДЗЕЦЬ. УВЕСЬ ГОРАД. ВЫ АДПРЭЧВАЕЦЕ НАС НОЧ ПРАЗ НОЧ, КАЛІ ВЫХОДЗІЦЕ І АБАРАНЯЕЦЕ ТЫХ, КАГО МЫ НЕ МОЖАМ».
«АЛЕ КАЛІ ВЫ РОБІЦЕ ГЭТА, СЭР, КАЛІ ДАЗВАЛЯЕЦЕ МІНУЛАМУ, ЯГО ШРАМАМ, ВЯСЦІ БЭТМЭНА, ЁН СТАНЕ ЧЫМСЬЦІ ЦЁМНЫМ, ДЭМАНАМ АДПЛАТЫ. НЕ ЎВАСАБЛЕННЕМ СПРАВЯДЛІВАСЦІ І НАДЗЕІ. І НЕ ЗЛАДЗІЦЬ НІ ЁН, НІ ВЫ».
«ПАСЛУХАЙЦЕ, ШТО Я КАЖУ... ЗАРАЗ МЫ З ВАМІ, МАЙСТАР БРУС».
«МЫ БАЧЫМ ВАС І ЖАДАЕМ ДАПАМАГЦІ».
«МНЕ ТРЭБА ІСЦІ, АЛЬФРЭД...»


«...БО Я ВЕДАЮ, ДЗЕ ХЕЛФЕРН».
АЛЕ Я НЕ РАЗУМЕЮ, СЭР. КАТАКОМБЫ – ГЭТА ГІСТАРЫЧНЫ АТРАКЦЫЁН ДЛЯ ТУРЫСТАЎ. МНЕ ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ...
КАЛІ НЯМА СВЯТЛА, ГЭТА НЕ АТРАКЦЫЁН.
ТЫ САМ ГЭТА БАЧЫШ. ДНК У РЭШТКАХ АДБІТКАЎ ПАЛЬЦАЎ ХЭЛФЕРНА, ЯНО З РОЗНЫХ КРЫНІЦ, АЛЕ ЗАНАДТА ПАШКОДЖАНА, КАБ ВЫСВЯТЛІЦЬ.
АЛЕ ТАКОЕ ПАШКОДЖАННЕ ЎЗНІКАЕ Ў ВЫНІКУ ДОЎГАГА ЎЗДЗЕЯННЯ АТМАСФЕРЫ. А ПЫЛ У ІХ, ФАСФАТЫ І КАЛЬЦЫЙ...
СТАРЫЯ КОСТКІ... АЛЕ ТАКАЯ СУМЕСЬ УСЁ Ж ТАКІ ДАВОЛІ РАСПАЎСЮДЖАНА.
КАТАКОМБЫ БУДАВАЛІ, КАБ АБАРАНІЦЬ ГОРАД АД ЗАРАЗНЫХ БАЛОЦІСТЫХ ЦАРКОЎНЫХ МОГІЛАК ВАСЕМНАЦЦАТАГА СТАГОДДЗЯ.
АЛЕ ЯНЫ ТАК ХУТКА СТАЛІ НАСТОЛЬКІ ПАПУЛЯРНЫМІ, ШТО ХУТКА СЕМ'ЯМ ДАЗВАЛЯЛАСЯ ПАКІДАЦЬ НА ЗАХАВАННЕ ТОЛЬКІ АДНУ КОСТКУ АД СВАІХ ЛЮБІМЫХ.
Я ДА ТАГО, ШТО ЎСЁ ГЭТА МЕСЦА – ДАНІНА ІДЭІ, ШТО ІСНАСЦЬ ЧАЛАВЕКА МОЖА СКЛАДАЦЦА Ў ЯГО КОСТКАХ.
ШТО РОБІЦЬ ГЭТА ДАВОЛІ ДРАМАТЫЧНАЕ МЕСЦА ГОДНЫМ ДЛЯ ЛАБАРАТОРЫІ ХЭЛФЕРНА.
А Ў ХЭЛФЕРНА, ВІДАЦЬ, ДОБРАЕ ПРАДЧУВАННЕ НА ДРАМАТЫЗМ.
СКАЗАЎ МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК У КАСЦЮМЕ КАЖАНА.


ВОСЬ, КАЛІ ЛАСКА.
Я НА МЕСЦЫ.
БАЧЫЦЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ЦІКАВАЕ?
ЯШЧЭ НЕ ЎПЭЎНЕНЫ.
MOON
...
ШТО?
ШТО ТАМ, СЭР?
О НЕ.
НЕ, НЕ, НЕ...


СЭР! СЭР, ШТО ТАМ?
Я ПАМЫЛІЎСЯ НА ЯГО КОНТ! ХЭЛФЕРН... ЯМУ ПАТРЭБНА НЕ ПОМСТА! ЗАБОЙСТВЫ... ГЭТА ПРОСТА ПРЫКРЫЦЦЁ.
ПРЫКРЫЦЦЁ ДЛЯ ЧАГО?..
ЧАГОСЬЦІ ЗНАЧНА ГОРШАГА. ЁН... ЁН ВЫКРАДАЎ МАТЭРЫЯЛЫ Ў ВУЧОНЫХ, ЯКІХ ЗАБІВАЎ! МАТЭРЫЯЛЫ, КАБ ЗРАБІЦЬ НЕЙКУЮ... МАШЫНУ ДНЯ ВЯЛІКАГА СУДА.
ЁН ЗБІРАЕЦЦА ЗАХАПІЦЬ УВЕСЬ ГОРАД, АЛЬФРЭД. УСЯГО ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН ЁН ПАСТАВІЦЬ ЯГО НА КАЛЕНЫ!
ХЭЛФЕРН? АЛЕ ЁН ЗДАВАЎСЯ...
НЕ, НЕ ХЭЛФЕРН. ЧАЛАВЕК, НА ЯКОГА ЁН ПРАЦУЕ. ВОСЬ, ХТО САПРАЎДНАЯ ПАЧВАРА. Я ЯГО НЕДААЦАНІЎ...
ZZZT
КАЛІ ЛАСКА, ПРАЦЯГВАЙЦЕ...
НІГМА.
ПРАВІЛЬНА, БЭТМЭН! ТЫ НЕБЛАГА ЎРАЗІЎ ГОРАД! АЛЕ, БАЮСЯ, ХУТКА Я ЎРАЖУ ЯШЧЭ БОЛЬШ.
НІГМА, СЛУХАЙ МЯНЕ. НЕ РАБІ ГЭТАГА. ТЫСЯЧЫ ЛЮДЗЕЙ МОГУЦЬ ЗАГІНУЦЬ!
...У ГЭТЫМ ВЕСЬ СЭНС, БЭТМЭН. ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ? ЭНТРАПІЯ ПАСКОРЫЛАСЯ! СВЕТ ЗАГІНАЕ. УЗРОВЕНЬ МОРА ПАВЫШАЕЦЦА. РЭСУРСЫ ВЫСІЛЬВАЮЦЦА. МОЦНЫХ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ МЕНЬШ...
...МЫ ЎСЕ ГЭТА АДЧУВАЕМ. МЫ ЎСЕ ГЭТА ВЕДАЕМ. АДЗІНАЯ ЗБРОЯ СУПРАЦЬ СТЫХІІ, ЯКАЯ ЁСЦЬ ВА ЎСІХ НАС, ГЭТА ІНТЭЛЕКТ. МАЗГІ!..
...ДЫК ЧАМУ Б НЕ ПАСКОРЫЦЬ ГЭТЫЯ РАЗБУРАЛЬНЫЯ СІЛЫ І НЕ ЗРАБІЦЬ ЛЮДЗЕЙ РАЗУМНЫМІ. СТАНЬ РАЗУМНЕЙШЫМ ЦІ ПАМРЫ!


І ДА НЯШЧЭСЦЯ ДЛЯ ЦЯБЕ, ДЭТЭКТЫЎ, ТЫ БЫЎ НЕДАСТАТКОВА РАЗУМНЫМ, КАБ СПЫНІЦЬ МЯНЕ НА ГЭТЫ РАЗ. БО ТАК ТЫ ДУМАЕШ ПРА СЯБЕ? ЯК ПРА ДЭТЭКТЫВА?
А ДЭТЭКТЫЎНЫЯ ГІСТОРЫІ, НУ, ЯНЫ ЖА ЯК ЗАГАДКІ. БІТВЫ РОЗУМАЎ. ЭМПІРЫЧНЫЯ ЗАГАДКІ, КАНЕШНЕ. ЯНЫ НЕ ТАКІЯ ЧЫСТЫЯ, АЛЕ ЎСЁ Ж ЛІЧАЦЦА.
ДЭТЭКТЫЎ ЗБІРАЕ ЎСЕ ЎДОКАЗЫ І ЎЗНАЎЛЯЕ ЗВЫЧАЙНЫ ХОД РЭЧАЎ.
АЛЕ ГЭТЫМ РАЗАМ ДЭТЭКТЫЩ, НУ...
...ЧАС ЗАХАВАЦЬ ДЭТЭКТЫВА З ПАЛЫМІ ПАКУТНІКАМІ. БО ПРАЗ ЛІЧАНЫЯ ХВІЛІНЫ ГОТЭМ БУДЗЕ НАЛЕЖЫЦЬ МНЕ. КОЖНАЕ ЯГО ПРАЖЫЛЛЕ...
...ЯГО КОСТКІ...
ЯГО КРОЎ...
...САМО ПАВЕТРА, ЯКІМ ЁН ДЫХАЕ. І Ў МЯНЕ ДЛЯ ГОРАДА ЁСЦЬ ЗНАЧНА БОЛЬШ СМЯРОТНАЯ ЗАГАДКА, ЧЫМ ТАЯ, ЯКУЮ ТЫ НЕ ЗМОГ ВЫРАШЫЦЬ.
ТАМУ ДАВАЙ СКОНЧЫМ ГЛАВУ ГЭТАЙ МАЛЕНЬКАЙ ДЭТЭКТЫЎНАЙ ГІСТОРЫІ, ДОБРА, БЭТМЭН?..




**Скот Снайдар**
сцэнар
**Грэг Капула**
малюнак
**Дэні Мікі**
туш

Францыска Плаценсія - колер
Кэці Куберт - нам. рэдактара
Капула і Плаценсія - вокладка
Сців Уондс - шрыфты
Майк Мартс - рэдактар
Бэтмэн створаны Бобам Кейнам

Пераклад і афармленне - comicsby.by
Набывайце коміксы тут - comicskrama.by